# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1675) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 19 ЧЭРВЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




На конкурсе „Беларуская песня '88" для школьнікаў не меў сабе роўных 60-асабовы хор з бельскай школы № 3. Працуе з хорам ужо шмат гадоў настаўніца музыкі Галіна Наумчук. Аб самым конкурсе і яго ўдзельніках чытайце ў тэтым нумары „Зоркі", стар. 9. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДУБІЧЫ-ЦАРКОЎНЫЯ

Вёска, якая 15 гадоў таму назад сталася цэнтрам гміннай улады, жыла ў гэты дзень сваім ціхім, быццам бы сонным і крыху ўтоеным рытмам. На адной з яе вуліц рабочыя закопвалі бетонныя краевугольнікі, рыхтуючы месца для тратуара. Гмінны цэнтр, якога лёс пасадзіў між Бельскам і Гайнаўкай, хоча вызваліцца з вясковага захалусця, прыпадобніцца да гарадскіх узораў.

Сапраўды, на тэрыторыі Дубіцка-Царкоўнай гміны няма аніводнага гарадскога пасёлка. Селіцца тут 25 вёсак, у распараджэнні якіх знаходзіцца зараз 6300 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Інжынер **Уладзімір Верашчака** (родам з Чыжыкаў выпускнік варшаўскай СГГВ), які ў Дубічах-Царкоўных нясе адказнасць за сельскагаспадарчыя справы, аўтарытэт-

(Працяг на стар. 7)




ІНТЭРВ'Ю ДАЕ АЛЕСЬ БАРСКІ

## Тоаць-значыць верыць

**— З усіх „белавежцаў", Вы — самы няўлоўны. Што б гэта значыла?**

— Гэта значыць, што там, дзе я — няма Вас, а там, дзе Вы — няма мяне. Як вядома, сінонімам няўлоўнасці з'яўляецца прыказка „шукай ветру ў полі". Хачу падкрэсліць, што гэта прыказка траціць усю сваю народную мудрасць, а нават сэнс, калі прылажыць яе да мяне вясною. Справа ў тым, што мяне вясною найлягчэй злавіць у полі. Ужо пасеяў пшаніцу, авёс і пасадзіў бульбу. Калі б шукалі Вы мяне не ў гарадах, а ў вёсцы, дык знайшлі б без цяжкасці, і такім чынам няўлоўнасць сталася б улоўнасцю. У Бандарах кожны Вам скажа, на якім палетку знаходжуся.

**— Многа чым займаецеся. Што ў вашым жыцці найважнейшае?**

— Не буду тут хваліцца сваім універсалізмам, бо я ўжо гэта рабіў, між іншым, у „Літаратуры і мастацтве": гаварыў і аб сваёй паэзіі, і аб навуковай дзейнасці, і аб перакладах, і аб грамадскай актыўнасці, і аб публіцыстыцы. Думаю, што ўжо хопіць паўтараць салодзенькую ісціну. Аб пісьменніку павінны гаварыць перш за ўсё яго творы, а не яго выказванні. Калі, аднак, я знаходжуся пры слове, дык хачу падкрэсліць, што поле, ралля якраз і з'яўляюцца для мяне паэзіяй. Гаворачы крыху падругому, ведаю, што зямля вырастае з паэзіі, а паэзія з зямлі. Праўда, не вельмі ведаю, дзе канчаецца поле і пачынаецца паэзія, або дзе пачынаецца поле і канчаецца паэзія. А быць можа пачынаюцца гэтыя субстанцыі ўсюды і не канчаюцца нідзе. Толькі трэба мець „нюх", каб вычуць, дзе яны і ўмець да іх прытуліцца.



Процілегласцю некаторым нашым аўтарам, якія пішуць і жывуць так, што чытаючы іх і прыглядаючыся да іх жыцця, не ведаеш, да якога яны народу належаць, стараюся не толькі пісаць, але і жыць так, каб кожны, хто сутыкнецца са мною, не сумняваўся, што мае дачыненне з беларусам. Не прызнаю нацыянальнага плюралізму. Лічу абсурдным тэзіс аб дзвюх родных мовах. Адкідваю меркаванне аб тым, што беларуская нацыя не можа жыць без апекі іншых і што свой росквіт заўдзячвае ім. Прыняць такія погляды, гэта значыць, прызнацца да ўласнай калекасці, непаўнацэннасці, фізічнай і духоўнай трэцеразраднасці.

**— Вы эмацыянальны чалавек...**

— І дзякуючы гэтаму часта праігрываю. Аднак не карчую ні з сябе, ні са сваіх вершаў эмацыянальнасці. Не саромеюся пачуццяў, асабліва нацыянальных, не баюся дэкларацый, асабліва нацыянальных, не пазбягаю экстрэмальнасці, асабліва нацыянальнай. Усё гэта нам, беларусам, здамінаваным чужынцамі, неабходнае, каб паверыць у сябе і адрадзіцца. Мы тут на Беласточчыне сапраўды павятовыя. Аднак, чалавек, які бярэцца за пяро, мусіць бачыць агульнанацыянальныя гарызонты. Калі гэтага не ўмее або не хоча, хай зломіць і выкіне

(Працяг на стар. 4)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## „БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ УНІВЕРСІТЭТ"

Фарміраванне нацыянальнай свядомасці гэта працэс доўгі і даволі складаны. У нашым, беларускім варыянце ён яшчэ з многіх прычын не закончаны. Адной з такіх прычын з'яўляецца недастатковае веданне сваёй гісторыі, літаратуры ці культуры наогул.

З прапановай беларускай самаадукацыйнай школы не раз выступаў Лёнік Тарасэвіч. Яго падтрымалі беластоцкія студэнты: Данка Мароз, Алесь Карпюк, Альжбета Ваўранюк, Юрка Каліна. „І слова стала целам". Іхнія намаганні ўрэшце-рэшт здзейсніліся. У лютым гэтага года распачаў рэгулярную працу „Беларускі народны універсітэт". Ад гэтай пары амаль кожную пятніцу ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку чытаюцца лекцыі па беларускай мове і роднай гісторыі. Лектарамі з'яўляюцца выдатныя спецыялісты. Гісторыю ў нас выкладалі: Васіль Сакоўскі — настаўнік з Гайнаўскага беларускага ліцэя, літаратар Сакрат Яновіч, браты Антось і Яўген Мірановічы — навуковыя супрацоўнікі Філіяла Варшаўскага універсітэта і вядомы наш гісторык др Юрка Туронак з Варшавы. Навучаннем роднай мовы пастаянна займаецца наша сяброўка, настаўніца беларускай мовы ў бельскай „тройцы" — Марылька Базылюк. „Універсітэт" карыстаецца папулярнасцю сярод беластоцкай студэнцкай і працуючай моладзі. Часта можна пабачыць студэнтаў з Варшавы, а нават вучняў сярэдніх школ з Бельска-Падляшскага. Слухачы „Універсітэта" гэта своеасаблівая катэгорыя беларускай сучаснай моладзі. Многія ўпершыню пачынаюць вучыцца літаратурнай мове, роднай гісторыі, а іншыя, якім пашанцавала сутыкнуцца з беларускімі ў беларускіх ліцэях, прыходзяць дзеля ўзбагачэння сваіх ведаў. Бо сапраўды, неканвенцыянальная форма лекцый, шырокі гістарычны абсяг прывабліваюць не аднаго. Лектары, як толькі могуць, стараюцца зацікавіць слухачоў і, трэба сказаць, што гэта ім поўнасцю ўдаецца.

Родная мова і гісторыя гэта бадай галоўныя фактары будавання нацыянальнай свядомасці. У будучыні можна будзе падумаць аб пашырэнні тэматыкі лекцый, скажам, на гісторыю беларускай царквы ці літаратуры. Сёння застаецца толькі прывітаць ініцыятыву „Беларускага народнага універсітэта", бо ў нашай рэчаіснасці моладзь не мае зашмат магчымасцей пазнаць родную гісторыю. Праўду кажучы, амаль увогуле такіх магчымасцей няма. Таму прыклад беластоцкіх студэнтаў асабліва заслугоўвае нашай увагі і ўдзячнасці. Зараз „Беларускі народны універсітэт" спыняе сваю працу ў сувязі з летнімі канікуламі, але ад кастрычніка зноў пачнуцца рэгулярныя лекцыі.

**Юрка Ляшчынскі**

## БАЦЬКАЎШЧЫНА 5

Звяртаемся да ўсіх, ад маладога да старога. Надыйшлі вакацыі, дык хаця цяпер знайдзіце вольны час, найлепш у днях 18–24 ліпеня 1988 г. Тады якраз адбудзецца славуты ўжо студэнцкі рэйд па роднай зямлі „Бацькаўшчына-5". Час „Бацькаўшчыны" — гэта вандраванне і спазнанне свайго роднага, сустрэчы з цікавымі людзьмі, з праблемамі зямлі беларускай, ды аднача́сная вясёласць і пацехі.

Тыя, што былі — прыйдуць, а хто яшчэ не быў — няхай прыйдзе. Чакаем!

Праграма нашага сёлетняга падарожжа такая:

18.07 — удзельнікі, хто чым, дабіраюцца ў Драгічын, і пад вечар спаткаюцца на аўтобусным вакзале,

19.07 — падарожжа: Драгічын — Сямяцічы,

20.07 — Сямяцічы — Мельнік,

21.07 — Мельнік — Такары,

22.07 — Такары — Нурэц-станцыя,

23.07 — Нурэц-станцыя — Чаромха. Там прадбачваецца заканчэнне рэйду. Наступнага дня раз'едземся хто куды.

Прачытай! Запамятай! Перадай!

ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**Яўген Вапа,**

**Мікола Ваўранюк,**

**Юрка Ляшчынскі,**

**Валянцін Сельвесюк,**

**Лявон Тарасэвіч.**

**МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ**

## „МРОЯ" „СТОД-РОК" №1

Нарэшце мы дабраліся да калектыву, з якога, бадай, мэтазгодней было б пачаць знаёмства з беларускім рокам. Бо менавіта „Мроя" першая прыйшла да ідэі спяваць рок па-беларуску і першая праз тую ідэю падышла да унікальнага музычнага кангламерата, атрымаўшага назву „стод-рок". І сам тэрмін, і абазначаны ім стыль не толькі народжаны на Беларусі, але і маюць тыпова беларускія духоўныя карані.

Хоць „Мроі" ўжо сем гадоў — нарадзілася яна ў 1981 годзе — склад рок-гурта за гэты час ні разу не змяняўся: Юрась Лаўкоў — вакал, бас-гітара, Алег Дземідовіч — ударныя, Лявон Вольскі — вакал, клавішныя, Уладзімір Давыдоўскі — вакал, лідэр-гітара.

Вучыліся, як і многія пачаткоўцы, на аўтарытэтах: ігралі творы „Дып пэрпл", „Лэд зэпелін" і былі спачатку задаволены — публіцы таксама падабалася. Але потым і тыя, і другія засумняваліся ў такой творчасці: а ці ёсць сэнс? Музыка ж гэта жывыя эмоцыі. Хіба можна камусьці дакладна сыграць чужы настрой? Сур'ёзны падыход вымагаў чагосьці большага. Скажам, паспрабаваць самім „агучваць" вершы папулярных паэтаў. Гэта таксама школа: яна вучыла выбіраць паэзію, якая б гучала ў року — няўрымслівым, надзённым, захапляючым; вучыла адчуваць у гэтай паэзіі музыку — адзіную, непаўторную.

Жартам хіба сказаць: на гэтыя „школы" пайшло два гады. Затое калі ў 1983 годзе „Мроя" выйшла ў свет са сваёй — цалкам сваёй — праграмай „Стары храм", выступіўшы з канцэртамі ў рамках разнастайных грамадска-культурных імпрэз, па рэспубліцы ўпершыню пайшла ін-

(Працяг на стар. 6)



*Купалле — магічнае ачышчэнне агнём, вадой, роднай песняй.*

**БЕЛАРУСКІЯ СТУДЭНТЫ, БОЙКАЯ МОЛАДЗЬ!**

Як кожны год, так і сёлета, будзем арганізаваць Купалле. Не парываючы са шматвяковай беларускай традыцыяй, прапануем увесці больш сучасны змест, штосьці накшталт жартоўнага „happeningu". Таму звяртаемся да ўсіх зацікаўленых Святаянскай ноччу, уключыцца ў падрыхтоўку мерапрыемства. Прапановы просім заяўляць пісьмова, па тэлефону, а найлепш асабіста арганізатарам, якія дзяжураць у рэдакцыі „Прысутнасці".

Купалле адбудзецца 25 чэрвеня (субота) у Супраслі над рэчкай. Паезд аўтобусамі. Выходзім з аўтобуса на першым прыпынку ў мястэчку. Там будуць чакаць вас спецыяльныя купальскія праваднікі.

Запрашаем да ўдзелу і супрацоўніцтва. **Арганізатары**

 

## Этнаграфічнае акенца





*Сустракаюцца яшчэ ў нашых вёсках хаты, якія сведчаць аб высокай мастацкасці душы іх дойлідаў. Каб так выразбіць сваю хатку, даслоўна, выцацкаць яе такім багаццем упрыгожанняў, трэба мець вялікае сэрца да гэтай працы, трэба мець ахвоту і несамавітае, нястрымнае імкненне выразіць сваё ўменне і сваё пачуццё прыгажосці.*

*Такую хатку мне ўдалося пабачыць у вёсцы Пасынкі недалёка ад Бельска.*

*Фасад будынка з ганачкам-верандай звернуты да вуліцы.*

*Фрагмент шчытавой сцяны будынка з акном і дэкаратыўнымі ўпрыгожаннямі.*

**Фота Я. Чэрнякевіч**

## З літоўскай кухні

### ЗРАЗЫ З КАПЧОНАЙ ШЫНКІ

На 60 дэкаў капчонай шынкі трэба ўзяць 1 лыжку мукі, 1 лыжку шмальцу, па адной шклянцы смятаны і булёну.

**На фарш:** 5 цыбулін, 2 гатаваныя морквы, 1 кіслы агурок, 1 лыжку вострага памідорнага перацёру, 2 лыжкі молатых сухароў, 1-2 яйкі, 1 лыжку тлушчу, молаты перац, соль.

Спачатку падрыхтоўваем фарш. Цыбулю дробна пасячы, абабраны агурок і моркву сцерці на бурачанай тарцы, гародніну падсмажыць на тлушчы, спырснуць вадой, дадаць памідорны перацёр і тушыць у каструльцы. Пасля гэтага дадаць молатыя сухары, яйкі, перац, соль і старанна перамяшаць.

Шынку, калі яна занадта салоная, трэба вымачыць у малацэ. Рэжучы ўпоперак валокнаў, зрабіць 12 скрылёчкаў і крыху іх разбіць. На кожны кавалак шынкі класці лыжку фаршу і загортваць зразы, абвязваючы іх ніткай. Тады зразы памачаць у муцэ, падсмажыць на тлушчы. Зламыць іх у каструльку, заліць смятанай і булёнам. Тушыць пад крышкай паўгадзіны.

Зняўшы ніткі, стушаныя зразы палажыць на талерцы і заліць соусам, у якім яны тушыліся. У якасці дадаткаў можна падаваць вараную бульбу, фасолю, тушаную ў памідорным соусе, вараны зялёны гарошак, або ячменную кашу.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Вітаю цябе, Астроне! Прысніўся мне вельмі кепскі сон. А менавіта, быццам змяняла я навалачку. Вось зняла я яе з падушкі, гляджу, а там поўна клапоў. Поўзаюць яны па падушцы, а я пачала іх трушчыць і так трушчыла, што навокал было многа-многа крыві. Напэўна чакае мяне штосьці кепскае, а мая ж дачка мае неўзабаве радзіць.

**Валя**

Маёй дачцэ прысніўся дзіўны сон. Быццам бы купіла яна ў магазіне высокія цёплыя зімовыя боты. Боты былі белага колеру. На пушыстай падкладцы, вельмі мяккія і выгодныя. Маёй дачцэ яны вельмі спадабаліся. Што можа абазначаць гэты сон? Мая дачка жыве ў вельмі кепскай кватэры і спадзяецца, што неўзабаве атрымае новую кватэру. Можа сон звязаны з гэтым...

**Марыся**

Валя! Не хвалюйся, бо твой сон не настолькі кепскі, як магло б здавацца на першы погляд, бо і сапраўды мог ён узбудзіць у табе агіду. Калі гэты сон не навеяны рэчаіснасцю, дык можа ён абазначаць тое, што ў тваім акружэнні ёсць нейкая надакучлівая асоба, якой ты ўжо хацела б пазбыцца (бо ты ж душыла тых клапоў). Гэта асоба можа быць тваёй сваячкай, аб гэтым сведчыць тое, што навокал ад клапоў заставалася кроў.

А тваю дачку, Марыся, чакае нейкае вельмі прыемнае і выгоднае падарожжа. Думаю, што будзе гэта падарожжа ў новую кватэру, якая акажацца вельмі прыгожай і вельмі выгоднай.

**Астрон**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ратуй, бо я трапіў у тупік. Не маючы сталага месца пражывання ў студэнцкім інтэрнаце, я начаваў дзе папала, у розных знаёмых. Але адна мая сяброўка, ведаючы маё цяжкое становішча, запрапанавала, каб я перабраўся да яе на кватэру. Я, зразумела, згадзіўся, тым больш, што набліжалася экзаменацыйная сесія. У яе жылі яшчэ дзве працуючыя дзяўчыны ў адным пакоі, а яна сама — у другім. Але яна збіралася выязджаць на амаль паўгадовую моўную практыку заграніцу. І таму звальняўся ў кватэры цэлы пакойчык. Я паспяхова залічыў зімовую сесію і, маючы амаль тры тыдні зімовых канікул, паехаў найперш да бацькоў, а потым з Асяй, сваёй нарачонай, у Бяшчады. Так папраўдзе з Асяй я тады вырашыў ажаніцца, так што і я, і яна, і нашы бацькі ўцешыліся, бо кажуць: пара.

І так у палавіне лютага, вясёлы, адпачыўшы, пазнавата вяртаюся ў „сваю“ кватэру, а тут сюрпрыз. Я не хацеў будзіць сужыхарак, неяк адкрыў дзверы сваім ключом і ўвайшоў. Падумаў, што і святла нельга запальваць, а то яшчэ хтосьці збудзіцца. У пакойчыку раздзеўся і намерваўся ісці ў ложак... аж тут, быццам гром з яснага неба... Аслупянелы, не магу адазвацца словам, а чую выразна дзявочыя галосікі, даволі радасныя: хі, хі, хі. Аказваецца, абедзве дзяўчаткі-сужыхаркі перабраліся ў мой пакойчык, нат унеслі сюды другі тапчан. Тлумачаць. быццам у іхнім была аварыя цэнтральнага ацяплення (ну, вядома, сучаснае будаўніцтва) і стала даволі холадна. Думаючы, што я ўжо не пакажуся, бо сапраўды я ім нічога не гаварыў раней, перайшлі ў гэты пакойчык. Ну, праўда, заявілі пра аварыю нейкай там рамонтнай брыгадзе, тыя прыйшлі, выкруцілі некалькі дзірак у сценах і падлозе, размантавалі што можна, а потым сказалі, што трэба змяніць абсталяванне ў цэлым „пёне“, але на гэта не маюць цяпер запасных частак і... зніклі.

Стаю я так, паўадзеты, не ведаю, куды падзецца. „Ісці да Аліны, ці да Бажэны ў пасцель?“ — думаю. Праўда, быў яшчэ адзін выхад, каб адна перайшла ў ложак да другой, а тады я быў бы адзін... але пра гэты варыянт, бачу, дзяўчаткі і не думаюць. Найлепш было б, зразумела, знайсці дзесьці матрац, спальны мяшок і так легчы ў адзіночку, ну, але з гэтым мне не пашанцавала, ні аднаго, ні другога я не меў. Стаю так, прыдуркавата ўсміхаюся, чухаючы сабе плечы, аж тут чую, чыясьці рука цягне мяне да сябе. Была гэта Бажэна. Я жуценька ўскочыў у пасцель і... „падзякаваў“ за запрашэнне, з узаемнай карысцю раскошы.

Калі я так забаўляўся з Бажэнай, Аліна ўголас праяўляла сваю незадаволенасць. Спачатку гаварыла, каб я выбраўся ад іх абавязкова, бо гэта амаральна, потым згадвала даволі непрыстойнымі словамі сваю сужыхарку, а потым змоўкла, але адчувалася яе злосць у паветры. Мне было даволі няёмка. Бажэна, разумеючы нязручнае становішча, кажа мне шэптам: „Жорж, ідзі цяпер да яе“. Я так і зрабіў, але тутака пайшло мне нялёгка. Аліна адварочваецца, кусае, бароніцца, але бачу, звычайна, ну, хоча і, урэшце-рэшт, сталася.

Раніцай адкрываю вочы і што бачу?.. Дзяўчаткі вясёленькія, запрашаюць мяне ў застолле на снеданне. Снедаем, а яны, быццам у змове, пытаюць адначасова: „Як было, з каторай лепш?“ Я выкрутліва штосьці адказаў, але яны ізноў: „З каторай першай сёння пойдзеш?“ „Запалкі вечарам пацягнеце“, — кажу цвёрда. „А нельга цяпер?“ — адказваюць.

Так што вось ужо добры месяц „цягнем запалкі“. Спачатку мне гэта спадабалася, добры сімбіёз, але цяпер ужо не. Прачынаюся нявыспаны, змучаны нейкі, нервы псуюцца, ды яшчэ ціск (крыві) надта павысіўся, баліць галава. Адным словам, здароўе псуецца. І каб гэта адзіная бяда была. У канцы нейкія чуткі дайшлі да маёй Асі. Баюся, каб не парвала са мною. Аднойчы нават, каб развеяць яе падазрэнні, я запрасіў яе да сябе на кватэру і, каб не быць адзіным мужчынам у кампаніі, — двух сваіх найлепшых сяброў: Колю і Веся. Сябрам растлумачыў, у чым сутнасць вечара, і яны сапраўды справіліся са сваімі абавязкамі як трэба. Забаўлялі Аліну і Бажэну, а Асі расказвалі пра мяне з павагай і дастойнасцю, значна перабольшваючы мае добрыя бакі. Усё-такі Ася да канца, відаць, не была пераканана ў маёй беззаганнасці. Гмм, дзяўчо інтэлігентнае, а тут і дурань здагадаецца, што калі ў пакоі два ложкі і тры асобы, значыць — штосьці тут не так.

Не ведаю, што рабіць, мо лепш было б як мага хутчэй перабрацца адтуль, бо хто яго ведае, як будзе далей? Сяброўкі яшчэ пасварацца са мною, ці між сабою, а мо і ў суд заяву накіруюць. За што? Калі не за наркаманію, дык за педэрастыю, прычына знойдзецца. Напэўна, могуць і за тое, што не маю актуальнай гарадской прапіскі, а за гэта адпаведныя ўстановы караюць. Ну, і што тады з Асяй, з нашай жаніцьбай? Бабам нельга верыць... Каб жа ў зямным жыцці можна было не толькі — рэчамі, але і сітуацыяй абмяняцца, дык я з ахвотаю гэта зрабіў бы. Сэрцайка, ратуй!

**Жорж**

Жоржык! У што ты ўлез? Гэта ж проста куратнік нейкі, а не дзяўчаты: не досыць, што ты ў іх супольны, дык заўтра — яны ўжо дзяўчаты тваіх сяброў?! Ты стаў баяцца іх, калі перасталі яны табе падабацца, і кажаш: бабам нельга верыць. А ці табе верыць можна? У цябе ж ёсць дзяўчына, з якой хочаш ажаніцца. Яна на цябе спадзяецца, яна перажывае, бо кахае цябе. А ты што робіш у той час? Ды і наогул, як даеш сабе яшчэ рады з Асяй... Не дзіўна, што і выглядаеш такі стомлены! Добры быў ты! Дагаджаў усім дзяўчатам. Але ўсё гэта некалі павінна было скончыцца. І Асю вось, бадай, пры аказіі страціў.

А цяпер так. Кватэру мяняй! Ася ўжо, пэўна, да цябе не вернецца. Дык адпачні! А пасля шукай сабе дзяўчыну сярод іншых.

**Сэрцайка**



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Інструментальная група калектыву „Жучкі“ з Бельска.*

# ЦЭНТРАЛЬНЫ АГЛЯД

200 удзельнікаў з 16 школ чатырох раёнаў Беласточчыны — так выглядае статыстыка Цэнтральнага агляду „Беларуская песня 88“ для школьнікаў.

Лікі гэтыя датычаць толькі Цэнтральнага агляду. А трэба ж памятаць, што на яго прыехалі лепшыя з найлепшых вельмі масавых школьных, а затым раённых конкурсаў.

Такая масавасць у конкурсах беларускай песні пацвярджае толькі вядомы факт, што наш народ вельмі любіць спяваць, любіць славіць песняй жыццё і працу, выражаць у песні сваю радасць, але і гора, і сум, і бяду.

І вельмі радасна, што сучасная моладзь нясе далей у вякі гэтую эстафету бацькоў. Яна такая ж расспяваная, такая ж галасістая і чулая на прыгажосць.

200 малых спевакоў выйшлі на сцэну Бельскага дома культуры. І ўсіх іх трэба было ацаніць па справядлівасці, каб нікога не скрыўдзіць, а толькі заахвоціць далей выступаць з песняй.

У журы былі запрошаны вельмі паважаныя і кампетэнтныя людзі: прафесар Беластоцкай музычнай школы Ежы Сьрудкоўскі, які ўсё жыццё аддаў працы з таленавітай моладдзю, выхаваў цэлыя пакаленні спевакоў і музыкантаў. Настаўніца з Бельска Валянціна Мароз — салістка калектыву „Васілёчкі“ і сама кіраўнік калектыву песні і танца „Вясёлыя ноткі“ са школы № 2 у Бельску. Калектыў гэты аказаўся найлепшым у элімінацыях да дзіцячага конкурсу савецкай песні і ўдана выступіў у Зялёнай Гуры. Трэцім членам журы была наша рэдакцыйная сяброўка Вера Балкавыцкая, былая салістка мастацкага калектыву пры беларускім таварыстве. Журы вельмі сардэчна ацэньвала ўдзельнікаў, у час конкурсу старалася іх падтрымаць, памагчы, дадаць адвагі. А на падсумаванне конкурсу прафесар Ежы Сьрудкоўскі даў удзельнікам цэлую лекцыю — шэраг парад, як трэба захоўвацца на сцэне, як спяваць, каб увесь голас выходзіў з грудзей чыста і гучна, як цікава апранууцца. Удзельнікі прынялі парады вельмі ўважліва і, думаю, у наступным годзе ўжо будуць ведаць, як добра выступіць.

Спявалі дзеці цудоўна. Шмат у нас добрых, моцных і мілагучных галасоў. Для прыкладу назаву хоць некалькі салістаў. Вось Адась Жарначук з Рыбалаў (першае месца ў конкурсе). Яго голас — гэта дар прыроды, які трэба моцна шанаваць і развіваць. Працуе з ім настаўнік Віктар Ахрымюк.

Цудоўна выступіла маленькая першакласніца з Чыжоў Юлька Карзуновіч. Яна ўсім спадабалася. Трошкі падрасце яна, лепш пазнае таямніцы спявання і мае вялікія шанцы мець сталае месца сярод пераможцаў конкурсаў беларускай песні. А пакуль што ёй прызнана І месца сярод наймалодшых. Рыхтавала яе да конкурсу настаўніца Ніна Адамюк.

Ася Барташэвіч з Кляшчэляў, апрача таго, што вельмі прыгожа спявала, праявіла вялікую сцэнічную культуру, захоўвалася як вопытная салістка. А мне асабліва спадабалася, што яна выступіла ў беларускім народным уборы: багата расшытая крыжыкамі блузачка, вельмі прыгожы фартушок, каралі, спаднічка. Адразу адчувалася, што выступае яна на нашым, беларускім конкурсе.

Шкада, што не ўсе дзеці мелі магчымасць выступіць у беларускіх уборах. Яны ж такія каляровыя, багатыя, святочныя!

У нацыянальных уборах выступілі таксама калектывы „Лянок“ з Кляшчэляў, „Беларусачкі“ з Дашоў, „Вясёлыя ноткі“ з Беластока, „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны і „Жучкі“ з Бельска. І іх выгляд на сцэне з прыемнасцю падкрэсліла камісія.


*„Лянок“ — песенна-танцавальны калектыў з Кляшчэляў.*

### А ВОСЬ ПОЎНЫЯ ВЫНІКІ КОНКУРСУ

**Малодшыя дзеці (0—3 кл.)**

І месца — Юля Карзуновіч, вуч. І класа з Чыжоў,

ІІ месца — Войтэк Томчук, вуч. ІІ класа з Дубяжына.

Два ІІІ месцы — Ніка Бандарук, вуч. 3 кл. з Беластока і Агнешка Камінская, вуч. 3 кл. з Кляшчэляў.

**Старэйшая група (IV—VIII кл.)**

Спецыяльная ўзнагарода „Зоркі“ — Ася Барташэвіч, вуч. 6 кл. з Кляшчэляў.

І месца — Адам Жарначук з Рыбалаў.

ІІ месца — Крыстына Якімюк з Чыжоў.

ІІІ месца — Мажэна Томчук з Дубяжына і Ёля Загон з Пашкоўшчыны.

Камісія адзначыла добрае выступленне Януша Корпача з Храбалоў.

**У катэгорыі малых вакальных груп — дуэтаў, трыё і квартэтаў.**

Два І месцы — трыё з Дашоў (Іра Евюк, Данута Евюк і Малгося Такаюк) і дуэт з Беластока (Ірына Копа і Анна Богус).

Два другія месцы — дуэт з Беластока (Маргарыта Юшчук і Эва Хвашчэўская) і дуэт з Храбалоў (сёстры Ёля і Крыся Семянюк).

ІІІ месца — дуэт з Кляшчэляў (Ася Барташэвіч і Агнешка Камінская).

**(Працяг на стар. 10)**


*Першакласніца Юлька Карзуновіч з Чыжоў.*

З суседскага агародчыка

## ЗАЛАТАЯ РЫБКА

Адзін з самых радавых работнікаў сферы бытавога абслугоўвання Амбарцум Сантасян, якога знаёмыя па-сяброўску ласкава звалі Амікам, на сваёй маторнай лодцы лавіў рыбу на возеры Севан.

Першы раз ён закінуў вудачку — выцягнуў даволі вялікую кахак.

— Патрэбна ты мне! — нездаволена буркнуў Амік і выкінуў рыбу ў ваду.

Другі раз закінуў вудачку — выцягнуў вялізнага сіга.

— Каму ты патрэбны? Такіх як ты, у магазінах па два рублі навалам! — і выкінуў рыбу ў возера.

Трэці раз закінуў ён вудачку — на блешні калыхалася... самая сапраўдная, самая натуральная стронга.

— Я сам цябе! — дрыжачы ад захаплення ўсклікнуў Амік.

Аднак тут здарыўся цуд. Стронга, шавелючы паранeнымі губамі, голасам прамовіла чалавечым:

— Адпусці, Амік, мяне ў возера, за сябе дам дарагі выкуп...

Амік ласкава ўсміхнуўся.

— Я ведаю, якая ты рыба — залатая ты рыбка, залатая. Сёння і за трыццаць рублёў не дастанеш кіло такой рыбы. Я ведаю, што зараз прапануеш мне „Волгу“, дачу, японскі відэамагнітафон... Мне нічога не трэба. У мяне ўсё ёсць. Адзінае: чаго мне хочацца, гэта стронгу... Я з'ем цябе.

І з'еў.

Арташэз Калантар'ян



## НІЎКА



### РАЗГАДКА

— Ці даўно ты, суседка, у агародзе не была?

— Ды дні тры. Нейк не здаровілася...

— А я, бач, ніяк уцяміць не магу, чаму гэта на маёй градцы чырвоных памідораў стала так густа!

### ГЛУПСТВА

— Цёценька, ваш сынок выпадкова выпіў бянзіну і цяпер носіцца па панадворку, як шалёны!

— Ды глупства! Бензін скончыцца, і ён спыніцца.

### ПОМАЧ НЕ ПАТРЭБНА

— Як жа вы тут жывяце? Няма ў вас ні доктара, ні фельчара.

— Скуль нам мець: мястэчка беднае. Вось так і паміраем без ніякае помачы.

### ІДЭАЛЬНЫ МУЖ

Жонка ўчыніла мужу пякельную сцэну:

— Ты, ідыёт! Увесь дом ужо ведае і пляце, што я цябе здраджваю!

— І ты, наіўная, верыш у такія плёткі?!

ГУМАР З БАРАДОЮ

### У СУДЗЕ

Суддзя: — Скажыце, пацярпеўшая, у якім месцы быў у вас залаты гадзіннік?

Пані: — Гадзіннік, пане суддзя, быў на ланцужку ў мяне за пазухай.

Суддзя: — Дык чаму ж вы не чулі, як абвінавачаны засунуў туды руку па гадзіннік?

Пані: — Я чула, пане суддзя, але думала, што ён з добрымі намерамі.



Цвяроза глядзеў на рэчы, якія не паспеў ірапіць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

...Усё ў яго жыцці ішло наперак. Ён быў закончаным няўдачнікам. Урэшце-рэшт ён вырашыў звярнуцца да псіхааналітыка, каб той усяліў у яго ўпэўненасць ва ўласных сілах.

Аднойчы раніцай ён увярваўся ў кабінет доктара з радасным крыкам:

— Док! Справа рушыла! Сёння я ўпусціў бутэрброд, і ён упаў маслам уверх!

Псіхааналітык узяў з рук пацыента бутэрброд, глыбокадумна вывучыў яго і з уздыхам сказаў:

— Стэнлі, дружа, ты намазаў яго не з таго боку.

*

— Заўсёды бачыў цябе ў тэатры з дзяўчынай, а цяпер ты ўсё адзін ды адзін...

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Дык яны ж пажаніліся.

### ЧАГО НЯМА

— Без справы
Не магу я жыць,
Ад працы
Галава баліць!..
Але не верась
Яму людзі:
— Чаго няма —
Балець не будзе.

Міхась Мірановіч

### СВАЯ МАРА

Аб лятаючых талерках
Часта марыць дармаед:
„Там, напэўна, шмат цукерак
І яды з другіх планет!“

Леанід Кацкевіч

З „Весніка Задрыпоніі“

### ВЕТЭРАН ЖЫЦЦЯ

А. Хварастовіч у пісьме ад 22 снежня паскардзіўся, што каля яго дома не чысцяць тратуар ад лёду, у выніку чаго ён не можа выйсці на вуліцу. Як паведаміў дырэктар жыллёвага кааператыва „Прышука“ (вых. № 327 ад 16 чэрвеня), выказаны факт не пацвердзіўся, аднак меры прыняты: перад уваходам у пад'езд, дзе жыве ветэран жыцця, высыпана машына шлаку.











## КУРЁЗЫ

### САФІР

Буйны памешчык, прыехаўшы ў Вену, папрасіў Сафіра прадставіць яго аднаму міністру. Сафір згадзіўся. Яны паехалі ў рэстаран, дзе абедаў міністр, і Сафір, добра з ім знаёмы, сказаў:

— Прадстаўляю вам памешчыка Конрада Кюнцлера. На апошняй выстаўцы буйнай рагатай жывёлы ён атрымаў першы прыз...

### ДЗЮМА

Аднойчы да Дзюма — бацькі з'явіўся нейкі пісьменнік і пагражаў яму, што пазбавіць жыцця сябе і сваіх двух дзяцей, калі Дзюма не пазычыць яму зараз жа 300 франкаў. Дзюма, які сам амаль заўсёды быў без грошай, абмацаў усе свае кішэні і шуфляды і знайшоў усяго 200 франкаў, якія і аддаў прасіцелю.

— Не, не, — усклікнуў той, — 200 франкаў мне не памогуць, мне трэба абавязкова 300 франкаў!

— Тады я вам вось што прапаную, — сказаў Дзюма. — Сябе пазбаўце жыцця, а дзеці хай застануцца ў жывых.




З таго часу, як паядынкі замянілі ананімкамі, лік ахвяр рэзка павялічыўся.